


№27 (120) люты 2000 г.

...Як жыць — дык жыць для Беларусі. А без яе — зусім не жыць.
*Ларыса Геніюш*

## НАШЧАДКІ КАСЬЦЮШКІ Й КАЛІНОЎСКАГА! АБАРОНІМ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ НАШАЙ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ!



# Зварот
## да палітычных арганізацыяў і людзей добрай волі

Увесь сумленны сьвет мусіць быць салідарны з чачэнскім народам. Свабодалюбны, шматпакутны чачэнскі народ, што стаў ахвярай расейскай агрэсіі, абараняе асноўныя каштоўнасьці чалавека — жыцьцё, свабоду, Бацькаўшчыну. Чачэнскі народ на сваёй спрадвечнай зямлі, бароніць яе ад расейскіх калянізатараў і акупантаў. Уся праўда і ўсё права — Боскае і чалавечае — на баку чачэнцаў.

Тыя, хто здаў Чачэнію, хто дапамагае расейскім карнікам і працягваюць яшчэ казаць пра правы чалавека — ня маюць больш права казаць аб правох чалавека.

Адносіны паміж людзьмі будуюцца па законах справядлівасьці й маралі, а не дэмагогіі й двайных стандартаў.

Я зьвяртаюся да сумленных людзей і да палітычных арганізацыяў і заклікаю выступіць зь ініцыятывай падтрымкі шматпакутнай Чачэніі і яе змагароў за свабоду. Чачэнскім салдатам патрэбная зброя і боепрыпасы, чачэнскай арміі — добраахвотнікі ўсяго сьвету, чачэнскім уцекачам — лекаваньне, лекі, жыльлё, усёй Чачэніі — мір і незалежнасьць.

Неабходна арганізаваць ціск на парляманты і ўрады краінаў і прымусіць іх пачаць рэальныя дзеяньні ў справе абароны чачэнскага насельніцтва ад вынішчэньня, у справе спыненьня расейскай агрэсіі.

Сьвет ня можа бязьдзейнічаць. Расейскія акупанты, непамерна вялізная расейская тэрарыстычная армія на вачах усяго чалавецтва вядзе жорсткую карную вайну з мэтай вынішчэньня нешматлікага свабодалюбнага народу, які легальным шляхам усенародна выказаўся за незалежнасьць Чачэніі й сьцьвердзіў гэта крывёю, бароначы волю.

Тое, што робяць расейскія генералы й расейская тэрарыстычная армія ў Чачэніі — гэта барбарства, злачынства супроць чалавецтва. Яны забіваюць жыхароў, разбурылі й зьнішчылі гаспадарку, прамысловасьць, жыльлёвы фонд краіны, сродкі йснаваньня чачэнцаў, выгналі за межы Чачэніі трэцюю частку насельніцтва (250 тыс.), зьнішчаюць вёскі й гарады, паставілі сьцерці зь зямлі сталіцу Чачэніі. У 1994-1996 гг. яны забілі 100 тысячаў мірных жыхароў (13% чачэнцаў), дзесяткі тысячаў ужо забілі зараз.

Калі цывілізаваны сьвет ня здолее зараз абараніць справядлівасьць і чачэнскі народ ад барбарства й зьнішчэньня, калі й надалей будзе лічыць Расею дэмакратычнай краінай (дзе, дарэчы, уведзеная ваенная цэнзура й вядзецца масавая дэзынфармацыя насельніцтва) — то пра якую справядлівасьць, пра якую маральную палітыку і ўвогуле пра якія нармальныя адносіны можа весьціся размова!

Неабходна патрабаваць ад урадаў і міжнародных арганізацыяў тэрмінова спыніць крэдытаваньне, спыніць інвеставаньне і ўсялякую фінансавую дапамогу Расеі. Расея ёсьць краінай-агрэсарам, якая ўжывае хімічную зброю супроць чачэнскага насельніцтва й пагражае апрымяненьнем атамнай зброі ў лякальнай вайне.

Такая краіна ня можа быць членам Савета Эўропы й Савета Бясьпекі ААН. Захад павінен ужыць эканамічныя санкцыі супраць Расеі, перастаць фінансаваць і ўтрымліваць агрэсіўную дзяржаву.

Да ўлады ў Расеі прыйшоў савецкі КГБ. Гэта "партыя вайны" — асаблівы сорт расейскага фашызму, ідэалёгія якога — вялікадзяржаўе й расейскі імпэрыялізм. Яго функцыянеры йдуць па трупах, і пасьля захопу Чачэніі плянуюць акупацыю Беларусі й Летувы.

З болем, трывогай і надзеяй гляджу на Беларусь — чарговую ахвяру крывавага расейскага кадэбізму. Агрэсія ў Чачэніі, дыктатура й падрыхтоўка аншлюсу Беларусі — адзіная расейская кадэбісцкая палітыка, якая ажыцьцяўляецца пакуль рознымі мэтодамі.

Недальнабачнасьць заходніх урадаў, іх хранічнае неразуменьне Расеі ня можа не зьдзіўляць.

Сумленныя людзі ў дэмакратычнай Эўропе, аднак, могуць уплываць на паводзіны сваіх урадаў. Неабходна ў самым пачатку спыніць разьвіцьцё агрэсіі й узрастаньне новага злачыннага рэжыму на Усходзе. Мы ўсе — людзі добрай волі — павінны зрабіць правільныя высновы з крывавай гісторыі XX стагодзьдзя.

***Зянон Пазьняк,***
***старшыня***
***Беларускага Народнага Фронту***
***"Адраджэньне"***
***й Кансэрватыўна-Хрысьціянскай***
***Партыі БНФ***

# ХРОНІКА ЧАЧЭНСКАЙ ВАЙНЫ

***Бравурная інфармацыя пра перамогі расейскай зброі ў Чачэніі ліецца з экранаў расейскіх тэлеканалаў і са старонак газэтаў.***

***Мінімальныя страты расейскіх вайскоўцаў, кропкавыя ракетна-бомбавыя ўдары па групах і базах тэрарыстаў, сустрэчы чачэнскім насельніцтвам сваіх вызваліцеляў ледзьве не з букетамі ружаў — усё гэта бянтэжыць ня толькі вайсковых сьпецыялістаў, але і ў шэраговых чытачоў ды гледачоў нараджае сумненьні адносна праўдзівасьці інфармацыі.***

***Варта задумацца, і паўстаюць пытаньні: як ва ўмовах складанага гарадскога ды горнага ландшафту ў наступоўцаў страты вымяраюцца адзінкамі, а ў абаронцаў — дзесяткамі й сотнямі? Як у населеным пункце ракеты з бомбамі адрозьніваюць тэрарыстаў ад мірных жыхароў? Як расейскія вайскоўцы выклікаюць такую бурную радасьць з боку грамадзянскага насельніцтва Чачэніі?***

***Каб чытачы маглі атрымаць больш аб'ектыўнае ўяўленьне пра тое, што адбываецца, мы з дапамогаю Віцебскага інфармацыйнага агенцтва (VITINFA) вырашылі распачаць публікацыю інфармацыі пра ваенныя дзеяньні, якая зыходзіць з агенцтва "Каўказ-прэсс".***

***Мы ня маем зь незалежных крыніц пацьверджаньня гэтай інфармацыі, але гэта погляд з другога боку. З параўнаньня можна зрабіць высновы.***

***Вось падзеі першых дзён студзеня гэтага году.***

***Працяг на стар.2***

## ХРОНІКА ЧАЧЭНСКАЙ ВАЙНЫ

***Мы ня маем зь незалежных крыніц пацьверджаньня гэтай інфармацыі, але гэта погляд з другога боку. З параўнаньня можна зрабіць высновы. Вось падзеі першых дзён студзеня гэтага году.***

**Зводка навінаў.**
**3 студзеня 2000 году.**

Сёньня а 8 гадзіне раніцы чачэнскія ўрадавыя сілы правялі пасьпяховую аперацыю па вызваленьні населеных пунктаў Алханюрт, Алхан-кала і Кулары.

Злучэньні чачэнскіх маджахедаў пад кіраўніцтвам Арбі Бараева, зманеўраваўшы нечакана для агрэсараў, атакавалі ворагаў з флангаў і з тылу. Зьнячэўку захопленыя ворагі панічна зьбеглі.

Падчас баявой аперацыі зьнішчаны палявы штаб вядомага расейскага забойцы дзяцей, жанчын і старых Шаманава, які кіруе так званай заходняй групоўкай расейскіх угалоўна-тэрарыстычных злучэньняў. Сам Шаманаў пасьпеў уцячы на БТРы.

Падчас бою зьнішчана ад 140 да 200 расейскіх агрэсараў, спалена 13 адзінак бронетэхнікі.

Як перадаюць зь Лівану, сёньня ў Бейруце невядомая групоўка атакавала расейскае пасольства. Былі ўжытыя гранатамёты й ручныя гранаты.

Актыўныя баявыя дзеяньні за горад Джахар распачаліся ў першыя дні сьнежня, калі расейскія злучэньні ўвайшлі ў паўночную частку горада, з боку тэрскага храбту. Штурм чачэнскай сталіцы распачаўся 4 сьнежня 1999 году.

За месяц баёў, па афіцыйных дадзеных чачэнскага камандаваньня, узброеныя сілы ЧРІ страцілі 54 маджахеды, паранена каля 70 байцоў, большасьць зь якіх вярнуліся ў строй.

За гэты ж час у баях за Джахар было зьнішчана каля 2-х тысячаў расейскіх агрэсараў, спалена да 120 адзінак бронетэхнікі, падбіта 3 самалёты й 5 верталётаў. Захоплена вялікая колькасьць зброі й баепрыпасаў, якая цалкам замясьціла баявыя расходы чачэнскіх маджахедаў. У палон узята больш за 70 наёмнікаў.

За той самы час ад бамбёжак і ракетна-артылерыйскіх абстрэлаў загінула ад 1000 да 1500 жыхароў чачэнскай сталіцы.

На сёньняшні дзень у абложаным горадзе застаюцца каля 40 тыс. мірных жыхароў.

Чачэнскія ўрадавыя сілы працягваюць аперацыю па блакіраваньні расейскай тэрарыстычнай групоўкі ў раёне "Горада нябожчыкаў". Супраць наёмнікаў ужываюцца мінамёты й горныя пушкі.

Па дадзеных на 2 студзеня ў гэтым раёне зьнішчана да 130 наёмнікаў, 11 наёмнікаў дабраахвотна здаліся ў палон.

Перыядычна ў зону высадкі расейскага дэсанту прылятаюць верталёты для папаўненьня боепрыпасаў і харчу тэрарыстам.

Пакуль што чачэнскім урадавым сілам удалося зьбіць толькі тры верталёты.

Каля 50 тысячаў жыхароў Турцыі з розных рэгіёнаў краіны сабраліся ў Стамбуле на мітынг пратэсту супроць агрэсіі Расеі ў Чачэніі. Дэманстранты патрабавалі неадкладна спыніць забойствы мірных жыхароў, спыніць вайну й вывесьці расейскія войскі з Чачэніі. Большасьць выступоўцаў вінавацілі турэцкі ўрад за бязьдзеяньне.

На мітынгу былі вывешаныя антырасейскія лёзунгі й патрабаваньні.

Шматлікія мітынгоўцы выказалі жаданьне неадкладна накіравацца ў Чачэнію дзеля барацьбы з расейскай агрэсіяй.

Расейскія агрэсары нясуць сур'ёзныя страты ў баях за Джахар і ўжываюць хімічную зброю.

У баях за чачэнскую сталіцу расейскія захопнікі атрымліваюць адну паразу за другой. Страты акупацыйнай групоўкі йдуць на тысячы. Штодня ў горадзе зьнішчаюцца ад 150 да 300 наёмнікаў. Падбіта вялікая колькасьць бронетэхнікі.

На працягу 2 студзеня толькі ў раёне прыпынку РТС зьнішчана 70 агрэсараў. У баях за кантрольныя высоты на 56 участку зьнішчана да 50 наёмнікаў, спалена 5 адзінак бронетэхнікі.

На Петрапаўлаўскай шашы была атакаваная расейская бронекалёна. Спалена 4 адзінкі бронетэхнікі й 3 аўтамашыны УРАЛ з баепрыпасамі.

Разгромлена групоўка агрэсараў у пасёлку Старая Сунжа. У палон узята 7 наёмнікаў.

## БЕРАЖЫЦЕ ЧАЛАВЕКА ! ! !

Сродкі масавай інфармацыі паведамілі, што Іван Ціцянкоў выпраўлены ў адпачынак. Лукашэнка асабіста выказаў яму падзяку за добрую працу. Так-так, таму самаму Ціцянкову, які ў 1995 годзе з такім задавальненьнем ірваў на шматкі бел-чырвона-белы сьцяг на будынку адміністрацыі прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь.

Што здарылася? Чаму ў поўным росквіце сілы й магчымасьцяў адзін з бліжэйшых паплечнікаў па ўласным жаданьні, як паведамляецца, стаўся беспрацоўным? Версій шмат, але асабіста нам найбольш цікавай падаецца наступная.

У Аляксандра Лукашэнкі яшчэ з часоў працы ў саўгасе "Гарадзец" была сьхільнасьць трымаць падначаленых "у яжовых рукавіцах". Ледзь што не па-ягонаму — па галаве. Інакш парадку ня будзе. Баяцца — значыцца, паважаюць. Гэтая практыка й была перанесеная ў сталіцу.

Злыя языкі кажуць, што гаспадар прэзідэнцкага палаца неаднойчы крута разьбіраўся зь некаторымі сваімі паплечнікамі. Траплялася й па кіраўніку справамі прэзыдэнта. Але колькі можа трываць нават самы адданы чалавек, тым больш калі ў самога, маркуючы па зьнешнасьці, сілы ёсьць. Мабыць, не стрываў ды "прыклаўся" ў адказ. Вось і застаўся без працы.

Але ж і працаўнік быў не шэраговы, ён, як-ніяк, насьціў асаблівай дзяржаўнай сакрэтнасьці. Шмат чаго ў памяці трымае.

Вось яны, рахункі пазабюджэтных фондаў, вось падрабязныя зьвесткі, у каго колькі "зялёных" набегла ў замежных банках. Тут яна, загадкавая страляніна пад Лёзна. Калі куля чамусь не адшукала свайго адрасата, хоць сам Іван Іванавіч чуў скрогат, калі яна ўваходзіла ў абшыўку "Мерсэдэса". Тут, не сумняваюся, шмат і іншай "смажаніны".

Уяўляеце, што адбудзецца, калі Ціцянкову захочацца пагаварыць. Гэта ж 10 мільёнаў уздрыгнуць. І ў іх вачах уяўны німб над галавой "бацькі" ператворыцца ў звычайную шворку.

Апазыцыя павінна не скнарнічаць, а вылучыць сродкі на ахову гэтага, так бы мовіць, банку дадзеных. Ягонай галаве цаны няма. То ж галоўны сьведка абвінавачваньня.

Крый Божа, застудзіць дзе ногі ды памрэ ад прастуды.

У краіне, дзе пасьля Чарнобылю практычна ва ўсіх імунітэт аслаблены, усялякае можа здарыцца.

*Язэп Калючка*

# Ад Распуціна да Пуціна.

За апошняе стагодзьдзе Расея прайшла шлях ад прайдзісьвета-гіпнатызёра і вялікага аматара жанчын Грышкі Распуціна да чарговага выратавальніка "імпэрыі зла" чэкіста Пуціна. Пакуль Распуцін нібыта лячыў царэвіча, расейская ўлада захварэла "распуціншчынай", што сталася адной з прычын краху самадзяржаўя і ўсталяваньнем крывавай камуністычнай дыктатуры.

Нядаўна па першым канале расейскага тэлебачаньня дэманстравалася перадача Э.Радзінскага "Распуцін", дзе на гістарычным матэрыяле выяўлена роля расейскай тайнай паліцыі ва ўсталяваньні "распуціншчыны". У гэтым сэнсе за стагодзьдзе нічога не зьмянілася: улада абапіраецца на спэцслужбы; апошнія тры расейскія прэм'ер-міністры — Прымакоў, Сьцяпашын, Пуцін — вылучэнцы адтуль, дзе творча выкарыстоўваецца вопыт Дзяржынскага, Яжова і Берыі; "у России две напасти — внизу власть тьмы, вверху — тьма власти", "воруют!!!", "в Россию можно только верить" (як верылі ў камунізм).

Прыход да ўлады "железного Путина", як назвала яго расейская газэта "Известия", азначаны масавымі забойствамі мірных жыхароў Масквы ды іншых гарадоў Расеі (некаторыя расейскія палітыкі і журналісты вінавацяць у арганізацыі выбухаў цэнтральную расейскую ўладу і тыя ж спэцслужбы), новай ваеннай кампаніяй на Каўказе, антыеўрапэйскай шавіністычнай істэрыяй у вядучых расейскіх СМІ. З Расеі падзьмуў вецер чарговай "халоднай вайны" з Захадам, гонкі ўзбраеньняў і камуна-фашысцкай дыктатуры. Надыходзіць эпоха "пуціншчыны".

Усё заканамерна, бо "імпэрыя зла" ня можа йснаваць без дыктатуры і вайны.

*Алесь Талака*

## ПАГАВОРЫМ ПРА ШЧАСЬЦЕ

Нарэшце! Дачакаліся! У Віцебску адчынены доўгаабяцаны лядовы Палац спорту!

А колькі было размоў! У трамваях, лазьнях, чэргах — зь нецярпеньнем. Калі ж яно? Пытаньнем поўнілася гарадское паветра й грудзі тых, хто яго ўдыхаў.

Адбылося! Мабыць, менавіта тое, чаго нам не ставала дзеля поўнага шчасьця. Адчулі, як палягчэла жыць, шаноўныя?

— Ня чую, штось пішчыць.

— Што? Яшчэ раз і гучней, калі ласка!

— А-а-а, уразумеў. Есьці хочацца.

— Што-што вы там бурчыце? Дах цячэ.

Да чаго ж вы, грамадзяне й грамадзянкі, несьвядомыя! Дзе вашае маштабнае мысьленьне?

Пакуль нацыянальная хакейная ліга ў Амэрыцы прагрэсіруе, мы адсталі ад перадавых краінаў Афрыкі па вядучых зімовых відаў спорту. А вы пра драбязу. Нечага рабіць культ зь ежы! Забыліся рацыён, рэкамендаваны самым разумным чалавекам краіны? Крышачку хлеба, сьмятанкі лізнуць — калі пашчасьціць, час ад часу — кавалачак мяса, дзетак пацешыць. Ня піце гарэлкі, галоўнае, ды не паліце, а то ў хакей гуляць ня зможаце.

Зірніце на таварыша прэзідэнта: у якой форме чалавек! Як сьлізгае па люстранай паверхні лёду ад адных варотаў да другіх ягоная стройная постаць. І ніякіх думак пра здаровую й карысную ежу. Прага адна — шайбу! шайбу! Так што, калі ў халадзільніку адзін мароз застаўся, канькі пад паху — і бегма да лядовага Палаца, там пра страўнік забудзеце.

— Жыць неяк. Дах развальваецца. Цячэ.

Ізноў за сваё! Дрэннае надвор'е і ў Палацы перачакаць можна. Там і парасону ня трэба. На тога ж Рыгоравіча зірніце — пяць год у Рыжкавічах не начуе, і нішто, не прапаў чалавек.

Іроніяй лёсу менавіта ў гадзіны, калі прэзідэнт на хакейнай пляцоўцы вітаў гледачоў, непадалёк ад свайго дому (у раёне ДСК) я назіраў за дзьвюма бабулькамі ля кантэйнэру са сьмецьцем. Бабулькі, найхутчэй, з электарату таго, хто шчасьліва забіваў у вароты чарговую шайбу. А ім таго дня пашчасьціла вывудзіць з кантэйнэру нейкія абгрызкі ежы.

Шчасьце, браце, рознае бывае!

*Б.Барысаў*




## ДАЙШЛІ

Ну, братка, дайшлі. Жыцьця ня стала. Бяда за бядою.

Трэці месяц балён не магу атрымаць, газавую пліту павуціньнем зацягнула, а прыгарадныя аўтобусы ня ходзяць — паліва няма. Вось зранку нашча й шпацырую на працу — кіламетраў зь 10. Нішто яшчэ — калега адзін усе 12 ідзе й нічога, не спазьняецца.

Кажуць, хадзіць карысна. Японцы раяць штодня 10 тыс.крокаў у якасьці прафілактыкі ад інфаркту ды інсульту. Але гэта ж штомесяц новы абутак купляць даводзіцца. Ну, японцам добра — мабыць, свае йены ад палучкі да палучкі за вушы не расьцягваюць, як мы сваіх зайцоў.

З другога боку: што я добрага ў гэтым жыцьці бачыў? Дом — напханы целамі аўтобус — работа. Потым наадварот. Сьвежым паветрам ня дыхаў, рухацца развучыўся. У люстэрку ўжо сам сябе не пазнаваў. Дзякуй роднаму ўраду — нагадалі, што ногі маю й прырода навокал цудоўная.

Крыўдна, братка, што я за Аляксандра Рыгоравіча на выбарах галасаваў. Абяцаў, салодкі наш, што жыць ***мы*** будзем лепш ды лепш. Падмануў, значыцца? Ну гэта як глянуць. З другога боку — гнуткасьцю, палітычным манёрам назваць можна. Хто ж у нас абяцаньні выконвае? Хіба ненармальны які?

Ды й хто табе, братка, сказаў, што ў прэзідэнцкае "мы" ўваходзіш ты са сваімі дзецьмі? У яго родзічаў, сяброў ды знаёмых і безь цябе дастаткова. Чалавек ён дзяржаўны, сувязі вялікія. І безь цябе на ўсіх не хапае. І нечага на чалавека паклёпнічаць.

І хопіць балбатаць, давай-ка подбегам да горада, а то на працу спознімся.

*Ігнат Жвавы*

## ВОСЬ ТАБЕ, "БАЦЬКА", І НОВЫ ГОД !

Калі на прэс-канфэрэнцыі А.Лукашэнку запыталі, як ён ацэньвае шанцы У.Пуціна зрабіцца прэзыдэнтам Расеі, адказ быў даволі дзіўным. Замест таго, каб, як вялося, прызнацца ў вечнай любові ды сяброўстве чарговаму маскоўскаму сябру, "бацька" раптам загаварыў пра заблытаныя рэйтынгі вядучых палітыкаў і што Пуцін, магчыма, ня будзе абраны прэзыдэнтам. Маўляў, да прэзыдэнцкіх выбараў яшчэ некалькі месяцаў і шмат што можа пераняміцца. Так празрыста грамадзянін Лукашэнка выказаў свае спадзяваньні. Адурманіўшы Беларусь і ўдосталь ёй нацешыўшыся, жадалася б тое самае зрабіць на вялікіх расейскіх прасторах і засесьці ў Крамлі. "Беларусь — пройденный этап." Ды ў Расеі й не было яму дагэтуль вартых супернікаў. Ельцын, Чарнамырдзін, Зюганаў, Прымакоў, Лужкоў — на іх варта адзін раз зірнуць, каб зразумець: не канкурэнты — і ўзрост ня той, і ўвогуле гэтай... ну як яе? харызмы не стае. Маладых будаўнікоў капіталізму кшталту Чубайса, Нямцова, Яўлінскага, Гайдара ці Кірыенку расейскі электарат лічыць за здраднікаў. Рыкаючы генерал Лебедзь абмежаваў сябе дабраахвотнай сібірскай ссылкай. У Жырыноўскага пік папулярнасьці застаўся ззаду. А над нашым "бацькам" — німб пальмянага народнага заступніка, моцнага, энергічнага, сьмелага. Праз стварэньне саюзнай дзяржавы былі рэальныя шанцы пакіраваць Расеяй на пасадзе прэзыдэнта новага Саюза. На гэта Лукашэнка й разьлічваў, да такой мэты крок за крокам і рухаўся ўсе апошнія гады.

А тут — Уладзімір Уладзіміравіч! Несумненна, пры такім прэзыдэнце Расеі мары Лукашэнкі пра крамлёўскага жураўля (двухгаловага, зь кіпцюрамі) застануцца марамі. Давядзецца задаволіцца беларускай сініцай. Ды й тую птушку драпежная суседка можа загрэбці. У расейскіх СМІ было паведамленьне, што У.Пуцін ухваліў эканамічную праграму правых сілаў. Адзін з галоўных яе аўтараў, Чубайс, напрасткі заявіў па расейскім тэлебачаньні, што ніякага саюзу ствараць ня трэба, проста шэсьць беларускіх абласьцей трэба ўключыць у склад Расейскай Імп... цьху! Фэдэрацыі. Проста й даходліва. Вось як глядзяць на нас так званыя маскоўскія "дэмакраты". Гэта яшчэ раз даказвае, што цывілізаванай і дэмакратычнай краінай Расея ў бліжэйшы час ня зробіцца. Зрэшты, у такім стаўленьні да нас самі мы, грамадзяне пакуль што Рэспублікі Беларусь, й вінаватыя. Для Лукашэнкі апошнія расейскія падзеі маюць значэньне: за кім большасьць у Дзяржрдуме, каго там абяруць прэзыдэнтам. Беларусі — усё адно: ці адразу прападуць у рабства, ці паступова, па частках.

Толькі разам мы, мільёны сыноў і дачок Беларусі, можам супраціцца расейскім акупантам і мясцовым здраднікам. Дык дамо ж адпор аншлюсу!

*Алесь Талака*

Адрас рэдакцыі: Крапівінскае поле пад Воршай.
Код 8.09. Тэлефон 1514.
Набрана й зьвярстана выдавецкай фірмай СІПХАЗ.
Надрукавана ў друкарні Кастуся Каліноўскага.

"Выбар" Заснавальнік: Віцебскі клуб выбаршчыкаў "За дэмакратычныя выбары".
Рэдактар Барыс Хамайда.
Наклад 499. Замова -- 19.
Падпісана да друку 27.02.2000 г.